УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
П69

**Пракаповіч, І. М.**
П69 **Астравы існасці / Ігар Пракаповіч. - Мінск : Каўчэг, 2018. - 128 с.**

ISBN 978-985-7202-57-7.

*Новы паэтычны зборнік лаўрэата літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча, лаўрэата звання «Чалавек Віцебшчыны-2009» Ігара Пракаповіча склалі вершы, якія напісаны апошнім часам. На думку аўтара, жыццё - гэта захапляльнае плаванне па вялікім возеры паміж астравоў расчыненай душы, зачараванай Айчыны, світальнай зары, шчымлівай пяшчоты...*

*Прачытайце вершы, павандруйце з паэтам у сферах пачуццяў, вобразаў, думак.*

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5

ISBN 978-985-7202-57-7

***

На мяжы двух сусветаў сустрэнемся мы
У агні, што стварае і паліць ізноў:
Там сустрэчны Анёл распявае псалмы,
Там галуб белакрылы ляціць...
                                        І без слоў
Мы глядзець будзем доўга на фарбаў суплет,
На расу, у якой ранкам сонца жыло,
Мы адчынім пакой у няведамы свет
І туды паляцім...
                        І пакінем жытло,
У якім гэтак доўга падманвалі нас,
У якім спакушалі на здраду сабе,
О, нас многа было, ды ў сённяшні час
Толькі ты... Толькі я....
                        І ў Млечным сяйве,
У марзянцы міргаючых зор і планет,
На мяжы двух сусветаў сустрэнемся мы.
“Ці ёсць шчасце?” – спытаўся калісьці паэт.
Шчасце ёсць. І яно
                        на той самай мяжы...

***

Вецер хмары пагоніць за лес недалёкі
І засвеціцца неба мільярдамі зор.
Я ў вечнасць раблю свае ціхія крокі
І мяне абдымае бясконцы прастор.

Мне б застацца вось тут маладым і вясёлым,
Яшчэ б сотню гадоў пахадзіць па Зямлі,
Але дрэвы, і тыя ўжо гнуцца да долу,
А яны ж са мной побач на свеце жылі.

Уваход у бясконцасць – звычайная з’ява,
І ў вечнасць іду я з усімі людзьмі.
Астываючы, магма становіцца лавай,
Ну а лава – матэрыя новай Зямлі...



Раніца
льецца ў акно
колерам,
незразумелае фарбы.
Выкідыш-дзень
роспачна плача дажджом.
Жыць давядзецца,
сціснуўшы вусны ўпарта.
І спадзявацца,
што дзесьці ў дажджах
затрымалася
смерць...

***

Неба сподак ружавее –
Будзе пекны дзень сягоння.
Аблачынка нібы спее
Ў цёмным кошыку бяздоння.

Новы дзень імгненні ловіць,
Шчасця зорачкі збірае,
Каб душэўны жар спатоліць
Тым, хто зорачак не мае.

Зорны час. І мне не спіцца.
За акном ужо святлее.
Вось бы раніцы напіцца
Зорным кубкам Вадалея...

## ТРЫЯЛЕТ

У хмары – вобраз карабля,
Які плыве па моры неба.
Яму прастор і воля трэба.
У хмары – вобраз карабля.
Палон фантазій – гэта крэда
Таго, хто цешыцца з жыцця.
“У хмары – вобраз карабля,
Які плыве па моры неба.”



І гэта дарога вядзе ў бяследнасць.
Сумненне, як шашаль, паточыць душу,
Якая хацела памкнуцца ў вечнасць,
Але напаткала туман ды іржу.

Хацелася верыць у свету бясконцасць,
Бязмежжа кахання, шматлікасць дарог...
Ды шлях – усяго толькі неабходнасць,
А ля дарогі - нязбіты мурог...

***

Жыццё надзеі кроіць
Спакусай жыць у шчасці,
Пачуцці нашы ловіць
На блешні віннай масці.

І тое, што нядаўна
Сцяной маны стаяла,
Паўстане ў сумным заўтра
Калонай ідэалу.

Прайшло ды прамінула.
А нам няма спакою.
Зноў блешня мільганула –
І мы ляцім за ёю...

***

І мы пакідаем сляды на зямлі.
Тут многа prasторы, і часу даволі.
А глянем назад – хіба мы там ішлі?
Там пыл і вятрыска гуляюць у полі.

Ці сеялі мы? Ці глядзелі на тых,
Хто крочыў за намі з надзеяй і верай?
Мы рэчкі ўброд перайшлі, а масты
Стаяць засталіся зжаўцелай паперай.

Здавалася нам, што на нашых шляхах
Дарогі праложаць да нашае мары.
А як азірнёмся... Пракляцце і жах –
Там вецер разносіць па полі пажары.

Куды мы, куды мы так прагна ідзём?
Навошта дарога, што следу не мае?
...За спінай смуродна гарыць чарназём,
За спінай - пустыня, зямля нежывая...

***

Каб рыба крычала ад жаху,
калі яе ловяць,
Каб плакалі дрэвы,
калі іх пад корань ссякаюць,
Каб кветкі стагналі,
калі іх бязлітасна косяць,
Каб глеба крывёю
па вуліцах вёсак сцякала,
Калі яе твар
пад асфальтам навечна
хаваюць.

То можа тады
мы пачулі б
свой голас сумлення...

***

І ўсё ж, ці мае сэнс жыццё?
Пытанне: быць альбо не быць?
Ці ёсць такое пачуццё
Дзеля якога варта жыць?

Каханню ў ложках начаваць,
Сяброўству здрады нож тачыць,
Сумленню – доўга-доўга спаць
Пакуль махляр будзе судзіць.

Прарочыць еўнух платанізм.
Манюка праўдзе прысягнуў.
Апой кляне алкагалізм.
І хтосьці простае сагнуў.

У чым таемны сэнс жыцця
Без спадзявання на паўтор?
…Прайсці ад крыку да збыцця
Паміж людзей, планет і зор....



У час растання лёгкі сум
Зрывае кветкі прыгажосці.
Натоўп людзей... Вар’яцкі тлум....
Сплячэнне зайздрасці і злосці.

У ціхай бухце караблі
Надзеі ветразі спусцілі.
А мы надзеямі жылі,
Усіх шанавалі і любілі.

Але прыйшоў растання час.
Быллё садоўнік абразае.
Надзей няма. Агонь пагас.
Адзін закон – усё мінае.

Паточыў шашаль караблі.
У сховах ветразі сапрэлі.
Мы зноў прысталі да зямлі...
Мы зноў сур’ёзна захварэлі...

***

За хатай вецер, як голас д’ябла.
У хаце цені віюцца ў плецьмы.
Такая ў восень пара настала –
Вясёлы шабаш спраўляюць ведзьмы.

А мне ж учора званілі з пекла
І запрашалі: “Ляціце, просім.
Тут будуць чэрці. Тут будзе пекна.
Пабудзьце нашым шаноўным госцем”

Казалі, будзе дзядуля Воланд
І сэр Кароўеў мяне чакае.
І будуць танцы, гарэлкі мора
Ну і вядзьмаркі – як пажадаеш.

А я гадаю... У хаце - холад.
Чароўна зелле блішчыць у шклянцы.
Мо і нядрэнна, што будзе Воланд...
Прыемны сервіс: вядзьмаркі, танцы...

Ды светлы промень з душы не сцерці,
Вачыма зорку сваю шукаю:
Учора з пекла званілі чэрці,
А сёння рана – анёлы з раю...

***

З сябе не вырвацца. І спробы ўсе дарма.
Не адпускае сіла прыцягнення.
У кожным руху ёсць сваё сумненне,
А вось свабоды поўнае няма.

А мне б жывы агонь адчуць
І знічкай вырвацца ў неба...
Ды людзі кайданы нясуць,
І людзі ж у блакіт завуць.
Мне гэта трэба?

Там мары без душы памруць...
А целу не пражыць без хлеба.

Але чаму так вабіць неба?

***

Каля возера вечар
павольнай хадою брыдзе.
Ён цяпер уладар
цішыні і расы на лугах.
Промень сонца, як трэска
згарае на цьмянай вадзе,
А над возерам кружыць
абсыпаны зорамі птах.

Мне чаромхавы пах
пра каханне расказвае сон.
Праз яго я плыву,
як плывуць туманы над вадой.
Нада мной, да бясконцасці,
зор залатых парасон,
І бясхмарнае неба
з малюнкам зямлі –
пада мной....

***

Ёсць мужнасць – кінуць зерне
На глебу, дзе даўно
Зрасло імхом каменне,
Тырчыць быллё адно.
Дзе чорны крук палюе
Над пудзілам-рыззём,
Дзе сонца не гасцюе,
Дзе цемра ёсць і днём.
І дзе ніводна птушка
Пра волю не пяе.
У полі сумна, скрушна,
Толькі зямля заве,
Каб нехта зерне кінуў
І вынішчыў быллё,
Каб нехта з поля скінуў
Крука цень і рыззё...



Вячэрні сум. Вячэрняя маркота.
Сыходзіць дзень, пануры, як асёл.
Ад траў ліецца пахкая вабнота,
І вечар туманамі сцеліць дол.

Стаю адзін. У неба вольна думкі
Ляцяць, як птушкі з выраю дамоў.
Не спыніць іх ні рух стагоддзяў гулкіх,
Ні нават тое, што спыняе кроў.

Мяне няма – я квантам стаў сусвету.
Лячу, палаю ў вогнішчы жыцця.
А Час павольна рухае планету
Па хісткім мосце яў і небыцця.

***

Няўмольны час усё сатрэ на пыл,
І ў пыле тым сляды пачэзнуць нашы.
Развее вецер пер’е юных крыл,
Асядзе ў душах попел чорнай сажы.

Здзіўленню, пэўна, межаў не знайсці,
Як і жыццю, што ўжо граніц не мае.
У бок любы ты мог бы ўжо пайсці,
Ды вось шкада – ніхто там не чакае...

***

Не ведаю, чаму бязмежны сум
Знаходзіць раптам сэрца таямніцу –
І, дзе быў сад, - нясе пясок самум,
І бераг светлы ў прывідах імгліцца.

Быў светлы дух... І вось – тупы асёл
Брыдзе ізноў бязвольна праз барханы.
Бяздонне раскрывае змрочны дол,
А на душы нагнойваюцца раны.

Я так хачу пражыць у чысціні,
І сустракаць салодкім сном світанне.
І каб усе, што яшчэ будуць, дні
Напоўнілі пяшчота і каханне.

***

На маленькай планеце,
Што ў сонечных промнях
Ляціць у прасторы
Праз цемру стагоддзяў
І верыць у вечнасць
Свайго існавання
У вечным сусвеце
Насуперак смерцям,
Што рвуць на кавалкі
Матэрыю зорак
Ствараюць свядомасць
І ўшчэнт разбураюць
Загадкавы розум,
Які ўзвышае
Вар'яцкія думкі
І ўсю філасофію зводзіць
Да простае тэзы, –
Жыву
Я

***

У вячэрнім палоне святла,
што ляціць
праз стагоддзі халодных
касмічных эпох
на Зямлю,
дзе нам выпала лёсам
пражыць, -
дзіўным водарам пахне
квяцісты мурог.

Кропля кожная мае
каштоўнасць сваю,
як і зорка,
што ціха плыве
праз туман, -
і Зямля – быццам шар,
а стаіш – на краі:
над табой і ў табе
незямны акіян…

***

Пасля блуканняў у спакой
Ідзеш, нібыта да касцёлу.
Прывідам д’ябал за спіной.
І дзесьці ўперадзе анёлы.

І мусіш стомлена сказаць,
Што вандраваць, напэўна, хопіць.
Што трэба проста працаваць,
Скаціну ў хлевушку заводзіць.

І што пара ўжо зразумець,
Што ісцін вечных не бывае.
Што ўсіх душой не абагрэць,
Не ўратаваць ахвяр адчаю...

Вось і ідзеш тады ў спакой –
Туды, дзе лётаюць анёлы.
А чорны д’ябал за спіной
Стаіць разумны і вясёлы...

***

У разбуранай рэальнасці шукаць
нейкі сэнс -
пусты, відаць, занятак.
Тут адметнае ўціскаецца
пад прэс,
і пануе
шэранькі парадак.

І на трэба розуму ствараць
рухавік
для Сонечнай сістэмы,
бо на плошчах гарадскіх
ужо гараць
вогнішчы,
дзе паляцца паэмы.

Ні вачэй, ні твараў –
толькі крык
рве ў шмаццё
матэрыю прасторы.
Я маўчу.
І ты ўжо прывык.
А ў мазгах
капаюцца манцёры.

Голас твой
зліецца хутка
з крыкам,
бо спрацуе
ў галаве дыёд.
Хай я высахну,
хай стану Куперс-крыкам…
Клейце іншым
шыльду “Ідыёт”.

*Памяці сябра*

Валера...Валера...Стыне твой след.
Планета ляціць сама.
Не для рамантыкаў жорсткі свет.
Прытулку ім тут няма.

У шэрым паскудстве сляпых адліг
Так лёгка згубіць святло.
Свечка патушана. Вецер сціх.
А сонца і не ўзышло.

Адолеў пад'ём, ды траверс, на жаль,
Не змог, не пражыў, не прайшоў.
І вось ужо з неба твой чорны шаль
Расправіў самотны шоўк.

А тая вяроўка, што што разоў
Трымала цябе над зямлёй,
Парвалася раптам і голас твой
Счапіла навек пятлёй.

Валера...Валера...Твой стыне след.
Анёл па душу ляціць.
Не любіць рамантыкаў гэты свет,
А там каму ёсць любіць?

...Малітва гучыць на крыжах дарог:
Д'ябал карае.
Ратуе – Бог.

## *Развітанне*

*Алесю Касценю*

У мястэчку тваёй любові
Восень сумна ідзе садамі,
Каб пакуты твае спатоліць,
І каб ты не спаткаўся з намі.

Застанецца гарэць на дрэвах
Развітальным агнём лістота.
І журба ў жураўліных спевах
На зямлю паплыве маркотай.

І часцей будзе неба плакаць
На дварышчы бацькоўскай хаты.
А вароны – тужліва каркаць,
Паглыбляючы цяжар страты.

Пагалосяць званы над ставам
І малітву святар прамовіць
У любімых тваіх Паставах,
У мястэчку тваёй любові...

***

Імгліцца далеч у тумане.
Наступны дзень не бачны нам.
Ці будзем хлеб купляць у краме?
Ці пойдзем на малітву ў храм?

Шляхі вядомы толькі Богу
І нам нічога не змяніць.
Не выбіралі мы дарогу,
Не ведалі, што значыць "жыць".

Але прыйшлі ў свет бясцонцы,
Жывём і цешымся з жыцця.
У шчасці песцімся на сонцы
І спадзяёмся на працяг.

Але настане дзень самотны –
І зморыць цела вечны сон.
Ці ты вясёлы, ці маркотны,
А мусіш здацца ў палон.

А што ў тым свеце нас чакае?
Ці будзем песціцца ў святле?
Ці, можа быць, навек сканаем
І нас даварaць у катле?

…Імгліцца далеч у тумане.
Ідзе праз ноч наступны дзень.
Мігцяцца свечкі нашы ў храме,
І смерці іх чакае цень.



На Зямлю ліецца цішыня
Мо з нябёс, а мо з двара суседа.
Зноў здаецца, што жыццё – гульня,
Ці радок прыгожага санета.

Я гуляю? Ці то мо пішу
Свой санет адзіны, непаўторны?
Як і ўсе малюся і грашу,
То бываю светлы, а то – чорны.

Сэнс жыцця не дадзена спазнаць.
Ды й жыццё амаль што праляцела.
Яно штосць хацела мне сказаць,
Ды, на жаль, чамусьці не паспела.

Ноч ідзе. Ліецца цішыня.
Не дапісаны яшчэ радок санета.
Добра, што жыццё ўсяго гульня –
Заўтра будзе час прадоўжыць гэта.

***

Душа ад цела адарвецца
І паляціць у свет блукаць.
Ды не туды, дзе можна грэцца,
І не туды, дзе можна спаць.
А ў той край, дзе няма праўды,
Дзе гвалт пануе і мана,
Дзе ўсё ва ўладзе хамства, здрады,
І дзе свабодаю – турма.

Душа зноў вернецца ў цела,
Але не тая, што была.
Яна ад роспачы счарнела,
Пачуцці болем апякла.
Яна напоўнена трывогай
І хоча праўду бараніць.
… А цела скажа: "Што такога?...
Чаму душа мая не спіць?..."



Пачуцці ападаюць, як пялёсткі,
З прыгожай кветкі, што на сонцы красавала.
Пусцеюць навакольныя палеткі
І яркіх колераў становіцца так мала.

І немагчыма з гэтым суладарыць,
Бо нельга перайначыць непазбежнасць.
Адзінае, пра што прыемна марыць, -
Гэта мяжа, за якой ёсць бязмежнасць.

За той мяжой магчыма паўтарэнне:
Ці пыл касмічны, ці крыніцы кропля.
І будзе гэта пераўвасабленне
Не нашай думкай і не нашай воляй.

У нейкім іншым зорным вымярэнні
Праз тэрмін часу, што завецца вечнасць,
Нязнанае дзівоснае стварэнне
Напіша верш
пра лёсу непазбежнасць…

***

Халодная жоўтая поўня
Плыла над заснулай зямлёю.
Прастора была, як лядоўня
У снежным бязгучным спакоі.

А нехта ў тузе адзіноты
Амаль вар'яцеў ад жадання.
Хацелася толькі пяшчоты,
Хацелася толькі спаткання.

А поўня плыла, як у лёдзе,
Між зорак дрыготка-халодных
З пустэчай сваёю ў згодзе
Без блізкіх, каханых і родных.

А нехта не мог адагрэцца
Ля печкі, дзе дровы палалі.
Бо холад ахутваў сэрца,
Бо сэрца нідзе не чакалі…

***

Усё ярчэй чырвонае святло.
І непатрэбна паласа разметкі,
Бо шлях пялёсткамі суцэльна замяло.
Пялёсткамі, што раскідалі кветкі.

І той дарогай цяжка так ісці,
Нагамі трушчыць водар, фарбы, колер.
І разумець, што болей у жыцці
Не будзеш мець такога аніколі.

У кветак пах – кружыцца галава.
Пялёсткаў вэлюм сыплецца пад ногі.
А далячынь – чырвоная смуга,
Ну, а за ёй – ужо няма дарогі…

***

Самім сабою хочаш быць,
Ды ўсё - не тое… Не, не тое…
Імклівы час кудысьці мчыць,
Ды не за employee марою тваёю.

У нейкі тлум, у нейкі шал
Душа штодзённа патрапляе.
Ладдзю жыцця дзявяты вал
То ўздыме ўвверх, то ўніз шпурляе.

І здасца, часам, што ладдзі
Ад хваляў тых не ўратавацца:
Не можаш вёсламі грабсці
І сіл не маеш, каб змагацца.

Але знянацку паміж хмар
Праменне сонцава праб’ецца:
І грозны сцішыцца абшар,
І лёгкі ветрык засмяецца.

Раскрые межы далячынь,
Цяплом напоўніцца прастора.
І панясе надзеі плынь
Душу ад мора і да мора.

*«Востраў зачараванай краіны»*

***

Такое кепскае надвор'е...
Такі пакутлівы настрой...
Ну, а на сочынскім узмор'і
Пануе мірнасць і спакой.

Пяшчотна бераг лашчаць хвалі,
Блішчаць прагрэтыя пяскі.
Там у нябёсах няма сталі,
А ў водах – чорнае лускі.

Там, пэўна, ціха і прыгожа,
Няма ні суму, ні тугі –
Паветра вольнага раскоша
І светлых мараў берагі.

Можна было б туды паехаць...
Ды толькі што мне там рабіць?
Чужую мову сумна слухаць?
Тугу ў віне густым глушыць?

Не, лепш няўтульнае надвор'е
І гэты чортавы настрой.

...Бывай жа, сочынскае ўзмор'е,
Я не сустрэнуся з табой...



Час няўпэўненых рухаў прайшоў.
Трэба нам выбірацца на шлях.
Дужа многа адданых сяброў
Заблудзілася ў змрочных лясах.

Колькі іх не прайшло цераз брод,
Колькі згінула ў стыні завей.
А як многа ў твані балот
Засталося прыгожых людзей!

Бач, радзее наперадзе лес,
Набірае ўпэўненасць рух.
А з балота ўсміхаецца бес:
“Вы прайшлі зачарованы круг...”

Штосьці робіцца намі не так.
А наперадзе сонца заве,
Да якога не дойдзем ніяк…
Хто на новы нас круг павядзе?

## *Балада*

Гаварыла радня Базылю:
“Не хадзі ты, Базыль, на вайну,
Цябе могуць чужынцы забіць,
Ці за краты навек пасадзіць.
У краіне даволі лясоў.
Дачакаеш спрыяльных часоў.
Пераседзіш нашэсце арды,
Мець не будзеш ніякай бяды.
Калі, раптам, чужынская раць
Стане нашай зямлёй кіраваць,
Трэба будзе скарыцца гасцям,
Бо галоўнае – выжывеш сам.
Калі трэба служыць – паслужы,
Крыўдных слоў – патрывай, не кажы,
На няпраўду і боль не пішчы,
А сагніся ў дугу і маўчы.
Ім заўсёды ва ўсім дагаджай,
Іхняй мовай да іх прамаўляй,
І спакойна жыццё пражывеш,
Хоць мо песні сваёй не спяеш...”

Ды казаў ім Базыль у адказ:
“Хай рассудзяць нас людзі і час, -
Вышай Волі мне шчасця няма.
Хіба можа быць Воляй турма?
Мы рабамі яшчэ не былі.
Лепш загінуць на вольнай зямлі,
Чым у сэрцы трымаючы жах
Па тутэйшых хавацца лясах.

Ці пародай сабачаю стаць –
Гаспадарскія пяты лізаць,
І брахаць на свой родны народ,
Перад Богам паганячы род.
Перад памяццю слаўных дзядоў
Не забруджу я здрадніцтвам кроў.
Вось таму і пайду ваяваць,
Каб чужынцам Зямлю не аддаць...”

Гаварыла радня Базылю,
Ды Базыль не паслухаў радню...

## *Санет*

Сярод ночы халоднай, валогай,
У тумане, падобным на мрою,
Распалілі агонь пад гарою
Для ўсіх, хто блукае дарогай.
Дождж накрыў наваколле аблогай,
І са змроку, паўстаўшым сцяною,
У надзеі на нешта святое
Людзі йшлі да святла, як да Бога.

Не пужайцеся цемры і слоты!
Да свабоды імкнуцца народы.
Мы таксама да Волі ідзём.
Ужо полымя ў неба шугае,
І з прасторы, што трызніць агнём,
Да сябе нас Айчына склікае.

## *Не стамлюся Парыжам*

Не стамлюся Парыжам,
бо там я не буду.
Нашто мне бадзяцца
ў палях Елісейскіх.
Я лепей на Нарачы
стану на вуду
Лавіць апантана
русалак тутэйшых.

Я лепей наш месяц,
лысаты, вусаты,
Закіну на неба
ў сузор’е Лукана.
Няхай ён вісіць
ля страхі каля хаты
І не спакушае
жаданнем нірваны.

Па нашаму краю
прайду незаўважна
Ліхтарыкам высвячу
чорныя плямы.
І з нашых святыняў
абсыпецца сажа,
І ў колерах яркіх
адновяцца храмы.

У самых сухіх
гістарычных аналах
Я след свой пакіну
як асенізатар.
Парыж можна ўбачыць
на розных каналах,
А дзе вы заўважыце
мой прэпаратар?

Па роднаму краю
цяку, як мядуза:
Ні ў рукі ўзяць,
ні заўважыць у плыні.
Тутэйшы становіцца
зноў беларусам,
А сам беларус
зноў распраствае крылы.

Няма мне эпохі
стамляцца Парыжам.
Не маю нагоды
бадзяцца Манмартрам.
Мой сябра,
якога раней звалі Грышам,
Завецца Рыгорам.
Свядомым і нашым…



Са сваёй не пойдзем хаты –
Паміраць дык паміраць.
Вунь ляціць Палын пракляты
Нашы костачкі збіраць.

І чаму ты, злое Ліха,
Не змагло край абмінуць?
Мо таму, што людзі ціха
Тут і плачуць і пяюць?

Мо задумаў ты, што мала
На маёй зямлі бяды,
Што народ адпіў за раны
Пляшкі горкія вайны?

Краю родны, краю мілы…
Людзі радый ноччу сняць.
Хіба можна напаўсілы
Нам і плакаць і пяяць?!

## *Летні чарнобыльскі вальс*

За сіняй далёкай гарою,
За холадам голых палёў,
Прыгожая мара плыве над зямлёю
У строях рамонкавых сноў.

Яна мяне кліча з сабою
У светлы і радасны край,
Дзе сонца заўсёды гарыць залатое,
І дзе ёсць багацце і рай.

Я ўслед ёй махаю рукою,
Бо сэрца не можа ляцець –
Да самага скону радзімай зямлёю
Яно будзе жыць і балець.

За сіняй далёкай гарою,
За холадам голых палёў,
Прыгожая мара плыве над зямлёю
У строях рамонкавых сноў.



Затуманяцца вочы ў восені,
Парудзее трава ля вады.
І ў небе – ні кропелькі просіні,
Толькі хмары і хмары адны.

Ці то гэта Атлантыка бавіцца?
Ці то плача Айчына мая
З-за таго, што ад стронцыя плавяцца
І жыты, і народ, і зямля?

Мы цяпер без віны вінаватыя
За кагосьці свой цяжар нясём.
На крыжах нашы душы распятыя
За адчай, за тугу, за разлом...



Нам ужо не сустрэцца ніколі –
Ты навечна сыходзіш за межы.
У дажджы быў схаваны плутоній
Наш, айчынны, а, можа, замежны.
Дзе цяпер адшукаць вінаватых?
Каму боль свой аддаць у праклянцці?
Смерць не ведае нашых і вашых –
Не памогуць ні блат, ні багацце.
Ты навечна сыходзіш за межы,
Каб не бачыцца болей ніколі...
Што ж, і я ў гэтым свеце не вечны.
І мяне, пэўна, возьме плутоній...

***

Паляціць душа птушкай белаю
У той вырай, дзе радасць бясконцая,
Каб збіраць там шыпшыну паспелую
Без плутонія, радыя, стронцыя.

Застанецца тут цела ссівелае
Ды хаціна з забітымі вокнамі,
След схавае сцяжынка ўтравелая
У прысадах з чарэшнямі соннымі.

А душа з чарадою буслінаю
Паляціць у краі невядомыя.
Цела ж хутка абернецца глінаю,
Потым ягадай стане ядомаю.

Мы далёка ляцім і вяртаемся,
Бо нам дома шыпшына смачнейшая.
Паміраем і зноў нараджаемся
З кожным разам да сонца бліжэйшыя.

## *Млын у Манькавічах*

Пахіліўся млын стары,
Пагнілі яго апоры,
Абваліўся збоку тын,
Заржавелі вось і жорны.

Ну, а рэчка ўсё бруіць,
Ціха песні напявае,
Ноччу зорамі блішчыць,
Днём – з аблокамі гуляе.

А, бывае, вечарком,
Вадзянік на бераг выйдзе.
Сядзе сумна пад млынком,
Каб не плакаць – вусны сцісне.

Але слёзы... Як стрымаць?
Яны з вочак льюцца, льюцца.
Птушкі чулыя маўчаць,
Ну, а жабы ўсе смяюцца.

Памяняўся белы свет.
Іншы час. Другія словы.
Кажуць, хутка сельсавет
Пусціць гэты млын на дровы.

Як пражыць вадзяніку?
Хто яму паспачувае?
Ціха ўсюды. На стаўку
Зорка ў вечнасць адплывае...

## *Капліца ў Шынаўшчыне*

На кургане ля капліцы,
Што блішчыць чырвонай цэглай,
Цень анёла ці начніцы
Блудзіць зданню бледна-белай.

Дужа страшна бачыць гэта –
Жахі ў сэрца запаўзаюць.
Нібы ў небе і не ветах,
Быццам прывід там гуляе.

А прыслухаешся – ноччу
Штосьці шэпча голас дзіўны, -
Ён камусьці зло прарочыць,
Намаўляе хвор і ліха.

...Добра, вогнішча палае.
Са святлом і страхаў меней.
Дзесьці ў цемры здань блукае,
Паміж дрэў блукаюць цені.

У кастры агеньчык скача,
А на ўзгорку ля капліцы
Белай плямай ціха плача
Цень анёла ці начніцы...



Ля Баторына хачу прайсці з табою
І пад шум азёрных трыснягоў
Гаварыць пра самае святое:
Пра Айчыну, вернасць і любоў.

Твае пасмы вецер раскудлаціць
І сляза на вейку заблішчыць.
Кожны міг у свеце штосьці значыць,
Калі, праўда,
ў гэтым свеце жыць.

## *Заклятыя скарбы*

На скарбах заклятых,
Што маюць таемныя сховы,
У поўнач на поўню
Пад промнямі ззяючых зор,
Танцуе жанчына,
І быццам ад свечкі васковай
Ліецца святло
У таемны і змрочны прастор.

Зачараваны тым
Незвычайным па пекнасці танцам
Зачараваны пластыкай
Цела ў хвалях агню,
Незаўважна цячэш,
Скарыстаўшыся рэдкасным шанцам,
На святло ў начы
І на здраду наступнаму дню.

І маўклівы курган,
Што вартуе заклятыя скарбы,
Што так пільна хавае
Таемныя нетры даўно,
Стане сведкам таго,
Як жаўтлявыя месяца фарбы
Ператворацца ў золата
І ў хмяльное віно.

У халодным святле
На маўклівай вяршыні кургана
Пасля дзіўнага танца
Два цені зліюцца ў адзін,
І адчыніцца ў нетры
Замовай закрытая брама,
І пасыплецца скарб
Залацістым даждажом,
Як бурштын.

***

Фотаздымак стары захаваў
Элементы шляхецкай культуры:
Дом сядзібны на ўзгорку стаяў –
Помнік нашай архітэктуры.

А цяпер на тым месцы трава
Ды галлё адзічэлага сада.
Вартаўнік адзінокі – сава –
Ні святлу, і ні людзям не рада.

Там, дзе ў фарбах буяла жыццё,
І дзе мары йшлі побач з каханнем, -
Шэрай мрояй паўзе забыццё
Ды мільгае мінулае зданнем.

Паўтарыцца не зможа ізноў
Пастаральнасць шляхецкай сядзібы.
Яе лёс – гэта фауна сноў
У аскепку разбітае шыбы.

Фотаздымак стары прыпыніў
На імгненне той час незваротны:
І стаіць сёння ў засені сліў
Дом сядзібны прыгожы і модны.

***

Тут замак быў. Цяпер няма.
Тут воі спяць адвечным сном.
Хавае чорная зямля
Імёны ўсіх сваіх сыноў.

І невядомы ў свеце жыў,
Глядзеў, як мы, на белы свет.
Ён захапляўся і любіў,
Быў слаўны рыцар ці паэт.

Зямля ўсіх тых, хто жыў да нас
Вартуе ў сховішчах сваіх...
Напэўна прыйдзе хутка час,
Калі і я сыду да іх.

І можа хтосьці праз вякі
Пачне свой верш або санет:
"Курган стаіць каля ракі,
А ў ім спіць рыцар ці паэт..."



Бог мяне любіць.
За што – невядома.
Можа за тое,
Што сэрцам лагодны.
Можа яшчэ,
Што ў дарозе і дома
Дбаю заўсёды
Пра блізкіх і родных.

Бацька і маці,
Дачушкі і жонка –
Вось мая радасць
Штодзённай уцехі.
Ну, а яшчэ ж –
Дарагая старонка,
Родных хацін
Панадворкі і стрэхі.

Раніцай сонца
У вокнах смяецца,
Вечарам месяц
Над хатай гуляе.
Сэрца заўсёды
Да роднага мкнецца,
Сэрца з любімымі

Адпачывае.

Хай жа заўсёды
Душа саграецца
Сціплай утульнасцю
Роднага дому.
…Ціхая радасць
Жыве каля сэрца:
Бог мяне любіць.
За што – невядома…

***

З часу юначых забаваў
Памяць успомніць парой
Лазню на беразе става,
Чырвань малін над вадой,
Ранак, прамоклы ад росаў,
Сонца вялікага шар,
Пах ад прывялых пракосаў,
Прорву жаданняў і мар.

Штосьці ў жыцці адбылося,
Нечаму ў лёсе не быць.
Дзякуй, што ўсё ж давялося
Ўсё гэта бачыць. І жыць.
…З часу юначых забаваў
Памяць успомніць парой
Лазню на беразе става,
Чырвань малін над вадой…

## *Дзесьці там*

Вечар… Ціха… На пялёсткі
Падае раса.
Дзесьці там, на ўскрайку вёскі,
Дзінькае каса.

Дзесьці там густыя травы
Лягуць у пракос.
Будзе добры воз атавы.
Будзе ладны воз.

Дзесьці там каровы з пасты
Важна йдуць дамоў
І нясуць у дзень сучасны
Смак малочных сноў.

Тых чароўных летуценняў,
Што калісь былі, -
Казку, сшытую з імгненняў
Неба і зямлі.

Дзесьці там праз водар мяты
Успамін плыве.
Дзесьці там і рай, і свята,
Ды няма мяне…

***

Спіць Баторына пад музыку зімы,
Пад напевы сцюжнай завірухі,
І па вёсках ціхія дамы
Спяць спакойна без агню і скрухі.

Не буджу, не рушу цішыню,
Проста сэрцам адчуваю свята:
Разумею, што люблю. Люблю
Гэты свет, што каля роднай хаты.

Гэты свет, адкуль ідзе мой род,
Дзе радня, і дзе магілы продкаў,
Дзе круціла бабка калаўрот,
Дзе дзядуля ставіў сеткі з лодкі.

Мне не трэба новы свет шукаць –
Ён са мною, у ва мне заўсёды.
Сэрцу зноў прыемна адчуваць
Прыгажосць тутэйшае прыроды.

Не буджу, не рушу цішыню.
Буду слухаць лёгкую завею.
Пасяджу я ў хаце ля агню,
Успамінам зноў душу сагрэю.

***

Паеду ў Шыкавічы, бо ў душы – туга.
Так хочацца ўздыхнуць ізноў паветра,
Якое нашумела ў трыснягах,
Якое назвінела ў струнах ветра.

Якое носіць пах сасновых смол,
Замешаны на водары грыбніцы,
Які паўзе з туманамі на дол,
Дзе ў цвет выходзяць вабныя п’яніцы.

Туды хачу, каб зноў адчуць душой
Прастору беларускае свабоды,
Што засталася чыстай і святой,
Прайшоўшы мужна гвалты і нягоды.

На вуснах зноўку буду смакаваць
Жывыя гукі беларускай мовы.
І будзе рэха ў лесе паўтараць
Такія простыя і дарагія словы.

*Маме*

Ціха жыццё каляндар гартае
Мкнуцца гады наперад.
А ты і прыгожая, і маладая
З пяшчотай, цяплом і верай.

Ты з намі побач – і гэта шчасце!
Хай Бог дае здароўе!
Хай абмінаюць заўжды напасці
Дом, што жыве любоўю.

Што б ні было, ты заўсёды будзеш
Для нас даражэйшай самай.
Побач з табою – добрыя людзі.
З днём нараджэння, Мама!

## *У Рымках*

Адбітак вечнасці – рачная плынь Дзісны.
Даўно не звоняць тут царкоўныя званы.
Марнеюць хаты і сады дзічэюць,
І печкі стылыя нікога ўжо не грэюць.

Саспелы яблык упадзе ў траву,
І здасца – рэха выгукне “Аууу…”
Але ніхто адказу не пачуе,
Хіба каршун, што вёскі сон вартуе…

***

Без мовы ты ніхто –
жывёла ды і толькі.
Яда, работа, сон –
такі расклад жыцця.
А роднага ў душы –
ні каліва, ні долькі.
Не дома ў доме ты,
ты дома - у гасцях.

Ды што яшчэ казаць?
Ды, пэўна, што нічога…
Калі без мовы ты –
не можаш чуць прамоў.
Ты хочаш многа мець,
ды пуста тое “многа”,
Калі твая душа
не мае родных слоў…

## *Мастакі малявалі Паставы*

Люстраваліся храмы ў плыні,
Танцавала лістота над ставам.
Па Паставах гулялі багіні.
Мастакі малявалі Паставы.

А прырода наладзіла свята,
Рассыпаючы колеры шчыра.
І было іх паўсюль так багата,
Што стварылася ўражанне піра.

Пунсавелі кляновыя строі,
Было золата ў лужах адліта.
І кружыліся творчыя мроі
Над мальбертамі і палітрай.

На малюнках мужнелі мужчыны,
Прыгажэлі жанчыны і дзеці.
Зіхаціліся ззяннем вітрыны,
На якіх былі пырскі і вецер.

Мастакі малявалі Паставы,
На палотнах спыняючы плыні...
Каля іх па зямных сваіх справах
Йшлі пастаўскія нашы багіні…

## *Край Нарачанскі*

Вочы азёраў глядзяцца ў нябёсы,
Водар смалісты плыве па барах,
Бусел на лузе варушыць пакосы,
Вецер пяе ў трыснягах.

Гэта усё – любы край Нарачанскі,
Край нашых светлых і шчырых надзей,
Край незвычайнай пяшчоты і ласкі,
Край працавітых людзей.

Край Нарачанскі! Айчына святая!
Белая чайка ляціць над вадой.
Я прыгажэйшай старонкі не знаю
У Беларусі маёй.
Край Нарачанскі! Лясы і азёры.
Ніваў зялёных шырокі разлог.
Сэрцу свабодна на вольным прасторы,
Бо тут жыве Бог!

Лёгкага лёсу не знаў ты ніколі,
Боты чужынцаў таптaлі не раз,
Але заўсёды ты мкнуўся да волі,
Марыў пра волю ў нас.

Родная мова і родныя песні
Будуць над роднай старонкай гучаць.
Наша, святое, не знікне, не счэзне

Покуль мы будзем кахаць.

Край Нарачанскі! Айчына святая!
Белая чайка ляціць над вадой.
Я прыгажэйшай старонкі не знаю
У Беларусі маёй.
Край Нарачанскі! Лясы і азёры.
Ніваў зялёных шырокі разлог.
Сэрцу свабодна на вольным прасторы,
Бо тут жыве Бог!

## *На сядзібе Ромэра*

Ля ракі Караліноўкі
Восень фарбамі гуляе,
Клёны ў колер апранае,
Шые яркія абноўкі.

На сядзібе – сум і ціша.
Гаспадар сышоў у вечнасць.
І пра восеньскую пекнасць
Ён карціны не напіша.

Малады мароз стварае
На акне карунак дзіўны
І на нітках павуціны
Промні памяці кранае.

Помніць Ромэра рачулка,
Помняць клёны ля сядзібы.
І звіняць, здаецца, шыбы
Ціха-звонка, сцішна-гулка…

## *Яны*

Штосьці яны гаварылі,
Нешта не тое казалі,
Зноў галаву задурылі,
Час незваротна забралі.

А я ківаў галавою
Быццам у нечым згаджаўся,
Але ў думках сцяною
Ад іх прамоў аддзяляўся.

А ім хацелася спрэчак,
А яшчэ болей – разборак,
Каб разгарэлася сеча
Сілай пад градусаў сорак.

Бачыў – яны вар’яцелі,
Нават дрыжэлі ад злосці.
Бедныя, аж успацелі,
Кажучы гэнае штосьці.

А я маўчаў і дзівіўся,
Як яны з глузду з’язджалі:
Лямант іх лаянкай ліўся,
Калі пра штосьці крычалі.

Так, не сказаўшы нічога,
Я іх правёў да калiткі.
Выйшлі яны на дарогу,

Селі ў вазы ды кібіткі.

Гулка загрукалі колы
У накірунку ўсходу –
Край там і змрочны, і голы
Дужа крыклівага роду.

Ціха так сталася ў хаце,
А ў душы так лагодна,
Што я падумаў пра шчасце –
Думаць пра гэта так модна…

## *Вёска, дзе няма святла*

Засыпаюць клёны жаркімі лістамі
Ціхія дварышчы апусцелых хат,
І ляціць над вёскай доўгімі начамі
Як салют апошні зыркі зоркапад.

У душы самотна, у душы тужліва.
Бо, здзічэўшы, вёскай блудзіць цішыня.
У траве высокай даспяваюць слівы,
І паўзе грыбніца па вішнёвых пнях.

Хоць на вокнах дошкі, ды разбіты дзверы,
І з паўзмроку хаты выглядае печ.
Абразок маленькі, кволы сімвал веры,
Ён у гэтых сценах, як чужая рэч.

Не спяе ўжо комін болей песні жаркай,
І сям'я не сядзе снедаць ля стала.
І далёка дзесьці ў грамадзе за чаркай
Хтосьці ўспомніць вёску, дзе няма святла.

## *Восень. Спробы*

*Спроба 1*

Сцюдзёны вецер гоніць лісце,
галлё гайдае і звініць
такой тугой, такой няўтульнай,
што сэрца плача і баліць.
І незвычайныя малюнкі
у думках скачуць зноў і зноў,
у скроні токам б’ецца кроў,
і ўсе жыццёвыя варункі
ператвараюцца ў шоу.

Спроба 2

Па лужыне кроплі танцуюць,
Аж пырскі да плоту ляцяць.
Счарнелыя дрэвы сумуюць
І ў неба жалобна глядзяць.
А ў небе без просвету хмары,
А з неба – дажджы і смуга.
...Размоклі салодкія мары,
І нават на сэрцы – туга...



Сонца яблык залаты
ў небе выспеў. Значыць восень
будзе вешаць на платы
павуцінне. І ўзносіць
стане ўверх лісця віхор...
Парсюкоў калоць пара,
кумпякі капціць. А здор
растапіць на тлушч. Жара
ўжо не вернецца. Прайшоў
час вясёлых летніх буйстваў.
Лес згарэў і голь наўкол...
Сонца яблык залаты
Ціха коціцца на стол...

***

Насунецца вечар
Халоднай і змрочнай пачварай.
А ў полі заззяе
Якійсьці агеньчык далёкі.
Я зноў развітаюся
З чыстай і светлаю марай, –
Яна паляціць
У той край, куды мкнуцца аблокі.

А я застануся
У горадзе сцюжным ад веяў,
У нудных дажджах,
Што звінець будуць сумна па стрэхах.
Душа будзе плакаць,
А сэрца нібы скамянее,
Бо стане прывідам
Той мары высокае рэха...

***

Ну вось і маразы...
А то пераживалі.
Баяліся, што снег не ляжа на палі.
Але ўжо, паглядзі,
Азёры лёдам сталі.
І з комінаў дымы ў нябёсы паплылі.

І сонечны прамень,
Прабіўшыся з аблокаў,
Як зайчык залаты заскача па снягах.
І ранак заіскрыць
Няўрымслівым патокам
У шыбінах дамоў і ў людскіх вачах.

І пасвятлее свет,
І твары ўсміхнуцца.
І новы ясны дзень напоўніцца жыццём.
Да чыстых дум і спраў
Мільёны душ памкнуцца
На тысячах дарог, якімі мы ідзём.



На паўслове разарваная размова –
Зноў мабільнай сувязі няма.
Дзесьці ў лесе заблукала слова
І яго засыпала зіма.

А пачуцці – поўныя трывогі.
У прасторы – золкая імжа.
Слову трэба вырвацца з аблогі,
Бо чакае сувязі душа...

***

Душа яшчэ жыве зімой.
Яна – у веях і марозах,
Нібы ў адзежы ледзяной
Застыла, сцішылася ў крозах.

Як і рака, што быццам шкло
Здалёк заснулай выглядае:
Палонкі снегам замяло
І вецер сіверны гуляе.

Але пад лёдам б’ецца плынь
І гэта ўсім дае надзеі,
Што будзе час і згіне стынь,
На поўнач адляцяць завеі.

І што душа адтае зноў
Для слоў пяшчотных і кахання.
І будзе новая любоў,
І будуць новае спатканне...

***

Вясна прыйшла ўладарна, жвава,
Ды нешта раптам схаладнела.
На небе ўсюды хмар аблава,
І сум бясконцы ў клетках цела.

І невыказны цень трывогі
Мільгае зданню па пакоях.
Душу пужае стан аблогі
У прадчуваннях сноў і мрояў.

А трэба жыць... Куды схавацца?
Дзе адшукаць душы прытулак?
Напэўна, лёс усё ж туляцца
У лабірынтах сноў і думак.

Ды што рабіць?... Цяпла чакаю.
Гляджу на змрочных хмар аблогу.
Я пасвятлею. Акрыяю.
Вось толькі памалюся Богу...



Задурыла вясна галаву.
У мазгах – рамантычныя мроі.
Нават дзіўна: так доўга жыву
ў добрым настроі.

Сакавіцкая ліпкая гразь
да пантофляў так прагна бярэцца.
А на сэрцы – чырвовая масць.
І яно – гэтак б’ецца!

Адхінаю зімовы спакой
ды імкнуся ізноў у прасторы.
Дзякуй Богу, што ёсць нада мной
неба і зоры.

***

Сакавік...
Са страхі
Кроплі дзінькаюць звонка.
Тае снег
І вадою цячэ ў лагчыну.
А стары
Пад страхой
Усміхаецца радасна сонцу –
Шчэ адну
Падмануць удалося зіму.

“Не бяда..
Будзем жыць...” –
Ціха шэпчуць бяскроўныя вусны,
“Будзе час –
Яшчэ пройдзем пакос па расе...”
А вада
Ў лагчыну
Шумна гоніць вясёлыя пырскі.
І вясне
Усміхаецца радасна дзед...



У прасторы, дзе сцелецца шолах травы,
Дзе, пульсуючы, сок ажыўляе кару,
Дзе з малітвай вяртання ляцяць журавы
Я запальваю ціхай надзеі зару.

Будзе сонца рамонкам расці ў блакіт,
Будуць пчолы насіць над світаннем нектар,
Будуць прагна туманы піць водар ракі
І павольна цячы ў світальны пажар.

А надзеі святло жаўруком над зямлёй
Разліецца ў песнях цымбаламі дзён,
І ўсход запалае барвовай зарой,
І загіне ў фарбах няскончаны сон...

## *Заяц*

Ён бег і хістаўся ад болю,
Ён блытаў сляды па кустах,
А ззаду сабака скуголіў,
Крывавы ўнюхаўшы пах.

Наблізіцца брэх, аддаліцца,
А потым пагоня ізноў.
І заяц адчайна імчыцца
Пад хвойныя шаты лясоў.

І ў ельніку “танец” танцуе,
То здвоіць, то скочыць назад,
То зноў сваіх ног не шкадуе –
Бяжыць цераз поле і сад.

А сонца хінецца да долу,
Сабака адстаў – не чуваць.
У небе халодна-ліловым
Ні краю, ні дна не відаць.

І мо праз гадзіну ці болей
За ўтульным сямейным сталом,
НЕ чуючы жалю і болю
Раскажа мужык, як было:

Як зайца падняў і як стрэліў,
Як бачыў на следзе кроў.
Што добра, відаць, і пацэліў,
Ды ноч перарвала лоў.

Ён кавы пап’е духмянай,
А потым (дай Бог!) сасніць,
Як заяц з крывавай раны
Ўсю ноч будзе чырвань піць…

## *Восень ідзе*

Яснее прастора, пусцеюць палі,
У рэчцы вада халаднее.
Чарговая восень ідзе па зямлі,
Сукенка на ёй чырванее.

А вочы халодныя поўныя слёз,
Якія дажджамі пральюцца,
Глядзяць у зіму і ўжо бачаць мароз,
Баяцца назад азірнуцца.

А там, за спіной, зеляніна травы
І птушак вясёлыя спевы.
Наперадзе ж – вуханне соннай савы
І голыя-голыя дрэвы…



Прыляцела зіма з-за мора,
Забяліла прастор завеяй.
І ўсё, што было ўчора,
Адплывае кудысь, нямее.

Засыпаецца снегам поле,
Пакрываецца лёдам рэчка.
За акном зноў вятры скуголяць,
Ну, а ім падпявае печка.

Пашырае прастора межы,
І ў пачуццях ізноў святлее,
Калі снежань ваколле снежыць,
Калі вецер сняжынкі вее.

***

Над белаю прастораю зімы
Над цішынёй, што далеч абдымае,
Халодны месяц, сумны і нямы,
Па зорным небе ў вечнасць адплывае.

Мы новы год сустрэлі на зямлі.
Сабе і людзям шчасця пажадалі.
Мы яшчэ год на свеце пражылі.
Пераажылі ці, можа, прагулялі.

А што наперадзе? Адказу не знайсці.
У небе месяц сумна праплывае.
А нам наканавана ўсім ісці
Насустрач вечнасці, якая нас чакае…

***

Праменне сонца залатога
Абудзіць сонную зямлю.
І змые галалёд дарога,
І грак абмерае зямлю.

Скранецца сок у жылах дрэва,
Праз снег праб'юцца ручаі.
На сонца сціпла і нясмела
Пралеска гляне ў гаі.

І людзі раптам зразумеюць,
Што халадоў ужо няма,
Што адскуголілі завеі,
Што дагулялася зіма.

Капеж са стрэх вясну вітае
І пачынае ёй адлік –
Усім наўкол напамінае,
Што йдзе па свеце сакавік.

Даўжэе дзень. Жыццё святлее.
І шмат для радасці прычын,
Калі пралеска сэрца грэе
У свята светлае жанчын.

***

На вясковых вуліцах платы
У сумётах снежных патанаюць.
Там сляды пакінулі каты,
Што вясну мурлыканнем гукаюць.

А яна на поўдні. І сюды
Не жадае, быццам бы, спяшацца.
І таму па вёсцы халады
Не саромяцца сваволіць і бадзяцца.

Добра ў хаце печку пратапіць,
І прысесці ля адкрытай дзверцы,
Каб цяпло да сэрца прытуліць,
Каб агонь ізноў адчуць у сэрцы.

Хай віхурыць вея за акном
І пад хаты гурбы намятае.
У жыцці, дзе ёсць утульны дом,
Свайго палу сэрца не губляе…



Снег засыпае дарогу,
Вея мяце і мяце.
Як на дражджах ля парогу
Белая гурба расце.

Глухне, нямее прастора.
Свету краёў не відаць.
Што гэта – бедства ці гора?
Ці, можа быць, благадаць?

## *Грушапад*

Сонца нетаропка коціцца ў жнівень,
Абсыпае нівы золатам сваім.
Вечарам учора з неба ліўся лівень,
Ну, а сёння ранкам – плыў туман, як дым.

Спелая маліна гнецца над вадою,
І дрыжыць пунсовасць у люстэрку вод.
А ў бары высокім пругкаю ракою
Сцелецца між соснаў верасовы мёд.

Тут грыбы вавёрка на галінках сушыць,
Там бабёр тралюе берагам камель.
А ў былым фальварку – толькі дзве ігрушы,
І на месцы хаты – гаспадар-камень.

Забуялі травы на былым палетку,
У мінулым дзесьці спее даўні сад.
Я ў там фальварку быў адзін за сведку:
Век стаяў і слухаў гучны грушапад…

***

Восень на струнах сардэчных іграе
Сумныя песні свае.
Жоўтае лісце па полі ганяе,
Шоргатам спаць не дае.

Цёмная ноч як бяздонная прорва
З пекла да райскіх вяршынь.
Як яшчэ цёпла было нам учора.
Сёння ж – касмічная стынь.

Вочы заплюшчу, а думкам не спіцца.
Шоргат ім спаць не дае.
Праўда ўжо восень? Ці, можа, мне сніцца?
Што ж там так вые-пяе?



Галасіла восень шумнымі дажджамі,
Размывала жорстка летнія шляхі,
Засыпала сцежкі жоўтымі лістамі,
Прымушала рэчку рушыць берагі.

І было ў тым плачы столькі негатыву,
Столькі скрыта болю, што не расказаць…
А сусед мне кажа: “Гэты дождж як дзіва.
Гэты дождж як свята. І як благадаць…”

***

Халодная восень
спаўзае залеўнаю хмарай
на мокрыя вуліцы.
З клёнаў зрывае лісты.
Дрот на слупах
зазвінеў,
нібы струны гітарныя.
Гук паляцеў.
Толькі быў ён
бязмежна-бясконца пусты.

Але скрануў
нетры хмары,
вадою напоўненай.
І загрымела яна,
і да нябёс загула
рэхам грымотаў.
А потым
у роспачы стоенай
рынула ўніз,
І ў ручаях
па асенняй зямлі
пацякла.

## *На лёдзе*

Вецер вее на лёдзе снягі
І жалобна пяе ў трыснягах.
Патанулі ў снягах берагі,
Трыснягі патанулі ў снягах.

Ні прасторы, ні часу няма,
Свет у белай віхуры плыве.
Весяліцца, гуляе зіма,
Трыснягі нетрывалыя рве.

Ты на лёдзе адзін між снягоў.
Белы вэлюм паўсюль і ва ўсім.
Ні пачуццяў, ні думак, ні слоў.
Ты – адзін…

***

Пачалася зіма з панядзелка,
Хоць яе мы яшчэ не чакалі.
З хмараў чорных злятае пабелка
І віхурацца вейныя далі.

Нам яшчэ хоць бы крышку цяплынькі
І ад сонца праменняў прыгоршчу.
Хай бы дождж яшчэ весела дзінькаў,
Хай бы лісце ляцела над плошчай.

Так заўважна зямля астывае,
Так бязлітасна стыне паветра.
Што ў гэтай зіме нас чакае?
І нашто варажыць нам пра гэта?

У часы халадоў і цямрэчы
Запаўзае гадзінніка стрэлка.
У жыцці яшчэ дзень? Ці мо вечар?
… Пачалася зіма з панядзелка…

***

Прыйшла зіма. Завеяй закружыла
Апошні ліст у снежнай мітусні.
У лужыне, што шклянкаю застыла,
Замільгацелі цені і агні.

Наліты цемраю халодны надвячорак
Глядзіць на горад вокам ліхтара.
Святло скупое льецца ў панадворак,
Дзе ў рост рванула снежная гара.

Ну што ж, зіма, пішы свае законы
На шыбах хат, на поынях ручаёў,
І рассылай свае сняжынкі-дроны
На касмадромы вуліц і палёў.

Нам ад цябе нікуды не схавацца.
Мы будзем проста з табой побач жыць.
Часцей сябрам і сонцу ўсміхацца,
Яшчэ пяшчотней гэты свет любіць…

***

Адзіная кароткая сустрэча.
На развітанне – толькі поціск рук.
Ні кветак руж, ні рамантычных свечак –
Чыгунка, станцыя і яшчэ польскі брук.

Але чаму ізноў вяртае памяць
У той даўным-даўно забыты свет,
Дзе дзве істоты ночку каратаюць,
Так і не ўзяўшы на цягнік білет?...

## *На ставе Манькаўскім*

На ставе Манькаўскім шуміць, пяе вада,
Б'ючыся весела аб рэшткі чорных паляў.
Тут вечнасці няўмольная хада
Іскрыцца пырскамі рассыпаных караляў.

Тут лёгка быць, і светла на душы.
Тут успамін такі шчасліва-чысты.
Ля Мядзелкі, як быццам на мяжы
Між даўнім сонечным і будучым імглістым.

Тут помняць дрэвы лёгкія сляды
І пацалункі млосныя да стомы.
І, можа быць, у памяці вады
Жывуць кахання палкага фантомы.

Гэта яны трывожаць пачуццё,
Вяртаюць зноў у асалоду шчасця.
Якое ж ты чароўнае, жыццё,
Хоць, часам, хочацца усё ж цябе праклясці...

Як і раней шуміць, пяе вада
І аж да слёз вярэдзіць адчуванні:
Што ўсё мінае – гэта не бяда,
Балюча тое, што міне каханне...

## *Пунсовы ветразь*

Пунсовы ветразь падніму на караблі
І паплыву ў акіян жыццёвых хваль,
Каб адшукаць куток не спэцканай зямлі,
Дзе не разбурана высокая мараль.

Ля той зямлі, у бухце залатой,
Я кіну якар раз і назаўжды,
Каб тут знайсці каханую Асоль
І тут пражыць шчаслівым і святым.

А калі вас аднойчы ў добры час
Цячэнне вынесе да бухты залатой,
Уздыміце ветразі пунсовыя, і вас
Сустрэне ваша ненаглядная Асоль.

## *Клавесін*

Ты чуеш? Музыка гучыць.
На клавесіне Бог іграе.
Малітву сэрца паўтарае –
Яму так хочацца любіць.

Такія рэдкія сустрэчы...
Такія вочы... Іх палон...
Мелодыі чароўны звон,
Ноч, абдымаючая плечы...

Тады адлегласць растае,
Пачуцці вечар ажыўляе,
Самота ў цемру адступае,
І ціха свята настае.

Ты адчуваеш баль душы?
Ты бачыш дзіўныя малюнкі?
Паўсюль каралі і карункі,
І ў вокнах стромкіх – вітражы.

Там ёсць прынцэса і кароль,
І замак, што плыве паўз ночы,
Там пра каханне шэпчуць вочы
І разумее Бог пароль.

...Сярод скульптур, сярод карцін
Пяе і плача клавесін...



Вочы ў вочы –
І гіне расстанне.
Вочы ў вочы –
І суму няма.
Крок застаўся адзін
Да прызнання:
Ты ў жыцці і ў сусвеце
Адна.

Ты адна для мяне,
Як світанне.
Ты – як ружа
Дзівоснай красы.
...Вочы ў вочы –
І гіне расстанне.
Вочы ў вочы –
І ты.
Толькі ты...

***

Месяц варожыць пра наша спатканне.
Месяц варожыць.
Жоўтым святлом аж да самага рання
Шчасце прарочыць.

Вечар пасецца на лузе паўночным
Белай авечкай.
Вёскі агеньчык здаецца на вочы
Кволаю свечкай.

Наша каханне блукае ў бязмежжы,
Нібы вятрыска.
Захад губляе выяўныя межы
Стынучым прыскам.

Свет захлынаецца ў месячнай млосці.
Рух памірае.
Вечар чакае тваёй прыгажосці.
Вечар чакае...

***

У Вас, як і ў мяне,
касмічная прастора.
У глыбіні вачэй –
далёкіх зор агні.
Вясёлы шум дажджоў
і перуноў пакора,
І ў бездані начэй –
бяздонне цішыні.

Ды ў час шалёных бур
мы рвём сваё маўчанне,
Раскідваем сусвет
на дробныя шматкі.
І пачуццёвы шквал
нясе нас у каханне,
І хтосьці шэпча нам
чароўныя радкі.

Лаўцы сляпых стыхій,
у нас адна прастора,
У нас адзін закон,
у нас адзін палёт.
Спіраліцца тайфун –
і што было ўчора,
Губляецца навек
у акіяне вод.

У бездані вачэй –
прыціхлы голас буры,
Касмічны вечны змрок
і жаркія агні.
Скідае зноў душа
пакровы цеснай скуры,
Бо не жадае жыць
у рабстве цішыні...

***

Паспелі вішні ў вэлюме завей.
Чырвоны сок на снезе замярзае.
Як добра, што кагосьці хтось кахае –
У маразы з каханнем жыць цяплей.

Вось толькі б сцюжа ў душы не ўвайшла,
І сэрцы ў шэрань зноў не апранула.
Цяплом і ласкамі душа душу кранула –
І сярод сцюжы вішня расцвіла.

Пялёсткі белыя і з неба белы снег
Злучае вецер радасным кружэннем.
І свет увесь жыве адным імгненнем,
Дзе толькі шчасце і вясёлы смех.

І калі зноў лёс верне рэчаіснасць,
Аціхне вецер, сцісне ноч мароз,
Рассыплецца дажджом вішнёвых слёз
Завейная халодная празрыстасць.

...Чырвоны сок на снезе замярзае
Як напамін пра шчасце сярод вей.
...У свеце стане крышачку цяплей,
Калі кагосьці нехта пакахае...

## *Цвыркун*

Нас яднаюць адны пачуцці
І зближаюць адны памкненні.
Нам не трэба чужыя людзі,
Ні умоўнасці, ні сумненні.

Нам утульна ў ціхай хаце,
Дзе “спявявае” цвыркун за печчу.
І яму зразумела шчасце –
Для яго мы запалім свечку.

Хай святкуе і ён спатканне.
Як і мы, хай адчуе радасць.
І яму Бог паслаў каханне –
Узлятаць над зямлёй і падаць.

Хай спявае сабе за печкай
Тую песню, што сэрца просіць.
І, як мы, саграецца свечкай,
Ды ў Бога спагады просіць.

Недзе ў цемру сышлі чаканні.
У пачуццях танцуюць цені.
Нас яднаюць адны жаданні
І зближаюць адны імкненні...

***

Спаткання смак ажынавы
На вуснах мёдам мроіцца,
Пад перазвон малінавы
Зноў сэрца непакоіцца.
Бо светла ўспамінаецца
Пяшчота рук ласкавая,
І як ладдзя качаецца
Старэнькая, дзіравая.
І як аблокі белыя
У водах адбіваюцца,
І як два цені светлыя
Пяшчотна абдымаюцца.

Палын паспеў аселіцай,
Лістота асыпаецца.
Туман ля рэчкі сцеліцца –
Каханне не канчаецца.

Паглыбляюся ў вір
самай чыстай пяшчоты,
І святлею душой,
і змываю грахі –
Уваходжу ў прастору
няведамай цноты,
Забываючы нашы
зямныя шляхі.

У бясконцы сусвет
палячу нібы промні
Да нябачных планет,
незапаленых зор.
Я хачу назаўсёды
пяшчоту запомніць,
І запомніць жыццё,
як бязмежны прастор...



Паплывём з табой на востраў
Сярод возера начнога,
Дзе трава нікім не змята
І дзе вольхі шэпчуць казкі.
Мы паставім там палатку,
Потым вогнішча распалім.
Можа песню праспяваем,
Можа проста памаўчым.
Будзе ўтульна нам з табою,
Нам з табою будзе добра,
Мо таму, што на ўвесь востраў
Будзем толькі ты і я.

Хай жа вольхі шэпчуць казкі...

***

З'явіўся верш у сне салодкім:
Азёрны бераг, пах маліны,
Чарот заснулы каля лодкі
І вусны, быццам журавіны.
І словы, што лячылі сэрца,
І рукі, што пяшчоту мелі.
...Мы не маглі ніяк сагрэцца –
Мы, прытуліўшыся, дрыжэлі.

...Азёрны бераг. Пах маліны.
Драмаў чарот ля нашай лодкі.
І не давалі журавіны
Мне прачытаць той верш салодкі...

***

Лета пачалося
Холадам, дажджамі
Без тваіх усмешак,
Без тваіх вачэй.
Стылая прастора
Пралягла між намі.
Дзень і так прагорклы
Робіцца гарчэй.

Свет абмежаваўся
Ў вуліцах і хатах.
Юная паштарка
Вестак не нясе.
Час плыве вадою,
Блытаецца ў датах,
Ну, а доўг жыццёвы,
Нібы горб расце.

Я на пільнасць справы
Так хачу забыцца,
У твае абдымкі
Трапіць, як у рай.
Ды ізноў паветра
У дажджах імгліцца.
І такі халодны
Шэры небакрай.

***

Месячнай ночкай русалкі выходзяць на бераг,
Песні спяваюць і з красак вяночкі плятуць.
Ёсць яшчэ людзі, што ў гэтыя з’явы не вераць –
Як яны сумна на казачным свеце жывуць!

Кожнай вясною з русалкамі балі спраўляю
І карагоды ля вогнішча з імі ваджу.
Што там маніць, а ў цямнейшыя ночы,бывае,
З пекнай русалкай да рання па гаю хаджу.

Вусны пякуць агнявыя сцюдзёныя росы!
Цела гарыць ад напалмаў жывога агню!
І расплятае русалка дзявочыя косы
І шэпча рэха яе трапяткое “люблю”.

Ёсць яшчэ людзі, што ў гэтыя з’явы не вераць -
Проста жывуць і працуюць, каб выканаць план.
Ім невядомы той месячны казачны бераг.
Ім невядомы русалкі, раса і туман..

***

У жыцці мы шукаем міласці,
Ды часцей на душы – палын.
Для жадання – так шмат магчымасці,
Нежаданню – так шмат прычын.

А жыццё, нібы сонца, коціцца
Праз зеніт за далёкі лес.
І душа ўсё часцей маркоціцца,
Адчуваючы часу прэс.

Усміхнецца дзяўчынка мілая
У рамонках п’янкой мяжы.
Ці былі мы з табой шчаслівыя?
Ці былі мы з табой, скажы?

У адказ толькі рэха доўгае
Адгукнецца тугой лясоў.
Нам жадалася вельмі многае,
Ды прычыны студзілі кроў.

За апошнімі сонца промнямі
Так балюча вачам сачыць.
Яны жарам жыцця напоўнены...
Яны гэтак жадаюць жыць...

У жадання так шмат магчымасці,
Нежаданню – так шмат прычын.
Дай жа, Божа, звычайнай міласці –
Асалоды кахаць жанчын...

***

Паглыбела цемра вечароў.
Зноўку жнівень вымакне расой.
Да чужых прываблівых краёў
Мкнуцца птушкі сумнай чарадой.

Іх сустрэне цёплае жыццё,
Ну а нас чакаюць маразы.
Жоўтае парванае лісцё
Зноў засыпле паркі і лясы.

Я і Вас, як птушку адпушчу
У палёт над стынучай зямлёй.
У малітве шчырай папрашу –
Хай дасць Бог Вам ласку і спакой.

Бо не можа сэрца больш кахаць,
І не можа ў край чужы ляцець.
Як вясну буду я Вас чакаць
І сустрэчы успамінам грэць.

...Да чужых прываблівых краёў
Мкнуцца птушкі сумнай чарадой.
У глыбокай цемры вечароў
Сэрца апякаецца расой...

***

Ты сказала, што хутка надыдзе зіма,
І пачуцці замерзнуць у скрусе завей,
Што ніякага ўжо паратунку няма
Ад растання, што рве нас мацней і мацней.

Што нідзе мы не знойдзем світальнай зары,
Што шляхі нашы крута ідуць пад адхон,
І што душы каханнем жылі да пары,
А цяпер над усім і адчай, і праклён.

Ну а я будаваў незвычайны палац,
Я ішоў да цябе цераз церні і золь.
Ды шляхі завялі на заснежаны пляц,
Дзе нікога няма – толькі роспач і боль.

Ты сказала, што хутка надыдзе зіма,
І пачуцці замерзнуць у скрусе завей,
Што ніякага ўжо паратунку няма
Ад растання, што рве нас мацней і мацней.

***

Паляцела птушачка ў вялікі свет.
У паветры восеньскім хіба ўбачыш след?
Паляцела птушачка з роднага гнязда,
А без яе песенькі сумна ў садах.

З поўначы халодныя наляцяць вятры,
Пазрываюць з яблынек жоўтыя лісты.
Хмары мнагаводныя ў небе паплывуць, -
І бацькам захочацца птушачку вярнуць.

Каб малой-маленькаю яна зноў была
І ў гняздзечку родненькім шчабятаць магла.
Але ўжо не вернецца гэты час назад:
Туманы асеннія ўвайшлі ў сад.

...Ды ў вялікім свеце ёсць закон такі,
Што да гнёздаў родных сходзяцца шляхі...

***

У тваіх я вачах патанаю,
Пад нагамі губляю зямлю.
Я цябе вельмі моцна кахаю,
Я цябе так пяшчотна люблю.

Гэта ўсё і не сон, і не мроя.
Проста, шчасцем напоўнены дні.
Сонца ў небе гарыць залатое
І анёлы пяюць з вышыні.

Я ўдзячны шчаслівае долі,
Што звяла мяне разам з табой.
Нам ужо не растацца ніколі,
Нам ісці па дарозе адной…

## *Закаханая ў вецер*

Яна закахалася ў вецер,
У юнака незямнога.
Ёй болей на гэтым свеце
Не трэба ўжо нікога.

Яна ў яго абдымках
Амаль кожны дзень бывае,
А ён, гэты невідзімка,
Валосы ёй расплятае.

А ён, гэты летуценнік,
У шале сваім глыбокім
Цалуе яе калені,
Цалуе вусны і шчокі.

Пяшчотай яго сагрэта,
Другой не жадае долі.
Яна цалуецца з ветрам,
Гуляе ў чыстым полі.

Хістаюцца ў лузе кветкі,
Гайдаюцца ў лесе дрэвы –
Пяюць пра каханне сведкі,
Гучаць пра каханне спевы.

## *Зорны мост*

Полымя гарэла на ўскрайку лесу,
Водбліскі мігцелі ў лісці бяроз.
Дым сцяліўся долам. Утвараў завесу,
Млечны шлях над рэчкай быў як зорны мост.

Ля агню сядзелі ў абдымках двое,
Назіралі лёгкі ў небе знічак лёт.
А на варце шчасця лес стаяў сцяною,
І спявала рэчка песню чыстых вод.

Палымнелі дрэвы сярод ночы ціхай,
Праз прастор касмічны ляцеў шар зямны.
Ля агню сядзелі, баючыся дыхаць,
У абдымках двое – на ўвесь свет адны.

У ваду зляталі знічкі залатыя,
На траве блішчэлі кроплі буйных рос.
І высока ў небе дзве душы святыя
Йшлі ў млечным ззянні праз той зорны мост.

***

Сонца ціха спаць пайшло
У заснежаны туман.
Гурбы ветрам намяло -
Пазаўчора быў буран.

Ну а сёння - дужа ціха.
І сусветаў край відаць.
З дрэваў капае адліга
І далёка звон чуваць.

У пакоі з трэскам печка
Песню шчырую пяе.
Сонца спіць. І спіць мястэчка.
Бог даброты раздае...

***

Ты прачнешся заўтра рана,
Каб убачыць усход сонца,
І паверыць нечакана,
Што жыццё тваё бясконца.

Што з таго, што век кароткі,
Калі ёсць на свеце вечнасць.
Смак жыцця такі салодкі.
Шлях жыцця вядзе ў млечнасць.

Ранкам ціхім і цнатлівым
Ты падыдзеш да аконца.
Ёсць жаданне быць шчаслівым,
Пакуль з неба ззяе сонца.

ЗМЕСТ

IV. ВОСТРАЎ ШЧЫМЛІВАЙ ПЯШЧОТЫ

Літаратурна-мастацкае выданне

**Пракаповіч Ігар Міхайлавіч**

# Астравы існасці

паэзія

*Адказны за выпуск*

*Карэктар Н. Д. Субач*
*Мастак В. В. Драгунова*

*Падпісана да друку 07.08.2018.*
*Фармат 60х84 1/16.*
*Папера афсетная. Друк лічбавы.*
*Ум.-др. арк. 7,4. Ул. выд. арк. 4,9*
*Наклад 99. Замова 405.*

*ТАА «Каўчэг»*
*Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,*
*вытворцы, распаўсюджвальніка*
*друкаваных выданняў*
*№ 1/381 ад 01.07.2014.*
*вул. Л. Бяды, 11/1-205, 220040 г. Мінск.*
*Тэл./факс: (017) 284 19 81*
*e-mail: kovcheg_info@tut.by*
*kovcheg-print.by*